


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі!* **Францішак БАГУШЭВІЧ**

# наша СЛОВА

№ 24(34) • 31 ЛІПЕНЯ — 6 ЖНІЎНЯ 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

*Але!* *Але!*

## Як будзем святкаваць?

**Праз некалькі месяцаў будзем адзначаць 100-годдзе з дня нараджэння выдатнага сына Беларусі, старшыні Беларускай рабоча-сялянскай грамады, акадэміка і ахвяры Курапатаў Браніслава Тарашкевіча. Але ўжо зразумела: слаўныя ўгодкі мы так і не адзначым у сядзібе-музеі ў Радашковічах. У пакоях, дзе працаваў Тарашкевіч, гадуюцца... індыкі.**

Радашковічы... Калісьці нябожчык Фёдар Янкоўскі — пісьменнік божай міласцю і вучоны-моваввед — казаў: тут абавязкова трэба стварaць музей рэспубліканскага значэння, бо мясціна гэтая ўнікальная ў сэнсе гістарычных падзей і рарытэтаў. І сапраўды. Вось старажытнае замчышча. Некалі тут высіўся палац, у якім у другой палавіне XVI стагоддзя нават праходзіў сойм Рады Вялікага Княства Літоўскага. А луг, што побач? Па ім імчалі коні атрадаў Кастуся Каліноўскага. З Радашковічамі звязаныя жыццё і дзейнасць шмат якіх слынных дзеячаў культуры Беларусі — Ядвігіна Ш., Язэпа Лёсіка, Язэпа Драздовіча, Аляксандра Уласава, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Аркадзя Чарнышэвіча, Фёдара Янкоўскага ды іншых. І нарэшце — Браніслава Тарашкевіча, 100-годдзе з дня нараджэння якога мы будзем адзначаць усяго праз некалькі месяцаў.

Якраз каля самага замчышча знаходзіцца сядзіба, дзе вучоны колькі гадоў жыў, дзе працаваў над сваёй знакамітай граматыкай беларускай мовы («тарашкевіца»!), куды наведваўся многа разоў у пачатку трыццатых гадоў, калі ўзначальваў грозную для польскіх шавіністаў і вялікадзяржаўнікаў Беларускую рабоча-сялянскую Грамаду. Адкуль, нарэшце, у каторы раз павезлі яго ў засценак, але ўжо не агенты дэфензівы, як перад тым, а чырвоныя энкавэдзісты, каб неўзабаве знішчыць у Курапатах.

Цяпер тут дажывае свой век жонка Тарашкевіча — спадарыня Вера. І наведваюцца да яе толькі сябры мясцовай суполкі Таварыства беларускай мовы. Каб хоць чым дапамагчы старой знямоглай жанчыне ў яе гаротнай адзіноце — неяк падрамантаваць дах ці прынесці вядро вады.

А каб ды трохі больш мець нам павагі да сваіх нацыянальных святыняў, то ці гэтак бы зараз выглядала гістарычная мясціна? Які тут мог бы атрымацца музей! Да сядзібы мястэчкавага шляхціца XIX стагоддзя натуральна можна было б далучыць карчму, пастаялы двор — і, калі ласка: тысячы і тысячы беларусаў (ды і турыстаў з іншых краін таксама) пажадалі б здзейсніць сюды паломніцтва. Была б Радашковічам і слава, і прыбытак.

Ды не! Праўда, на сесіі гарпасялковага Савета было-такі вырашана стварыць у сядзібе, дзе жыў Браніслаў Тарашкевіч, музей. А ў выніку? Неўзабаве (і нават пасля таго, як у газеце «Літаратура і мастацтва» быў надрукаваны артыкул «Замах на гістарычную мясціну»!) быў зруйнаваны флігель, дзе любіў працаваць Браніслаў Тарашкевіч. Цяпер вось у «ЛіМе» зноў нядаўна выступіла група беларускіх пісьменнікаў у абарону гістарычнай мясціны, і мы тут хвалюемся: каб у адказ нашы мясцовыя ўлады не ўчынілі якой знішчальнай акцыі.

Адно трохі неяк суцяшае: зараз у сядзібе жыве адвакат Т. Рабушка (якая, дарэчы, мае ўласную палову хаты ў цэнтры мястэчка). Дык яна тыя два пакоі, дзе жыла сям'я Тарашкевічаў, percтварыла... у хлеў. Трымае там індыкоў і трусоў. Так што ў выпадку чаго, відаць, будзе адвакат абараняць памяшканне для ўласнай жывёлы, калі ўжо не гістарычную пабудову.

Але слаўныя Тарашкевічавы ўгодкі адзначаць там прыхільнікам беларускай культуры наўрад ці давядзецца. Факт, думаецца, які таксама застанецца ў аналах нашай айчыннай незвычайнай гісторыі.

**Сымон БЕЛЫ,**
**старшыня Радашковіцкай рады ТБМ, заслужаны настаўнік БССР.**

## Поступ тыдня

Становішча на спажывецкім рынку Беларусі ацэньваецца сёння як крытычнае. У параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года значна скараціліся пастаўкі ў гандаль усіх відаў прадуктаў: бульбы на 18 працэнтаў, гароднiны на 12, малака на 8... Толькі пастаўка гарэлкі і віна павялічылася на 29 працэнтаў. Ды і то, кажуць, пападаюць яны часцей за ўсё ў рукі «сваіх людзей», бо па талонах выдача зменшылася *да адной бутэлькі* на чалавека.

**В. Ф. Кебіч** аб'явіў прафсаюзнаму актыву: беларускі ўрад супраць павышэння цэн. «Да канца года ні на якія вырабы цэны павышаны не будуць. *Будзем трымацца,* хоць на нас націскаюць».

Кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюза авіядыспетчараў краіны прыняло рашэнне 10 жніўня пачаць забастоўку. Відавочна, што ўсе асабістыя палёты, намечаныя *на гэты дзень,* трэба адкласці.

У нядаўнім пасяджэнні Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады прыняў удзел старшыня рэспубліканскага савета прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання А. І. Бухвостаў. Гэта сустрэча павінна пакласці пачатак супрацоўніцтву паміж сацыял-дэмакратамі і прафсаюзамі дзеля абароны інтарэсаў *працоўных.*

**27 ЛІПЕНЯ — ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ**

Рэспубліка адзначыла першую гадавіну з дня падпісання Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. На сходзе, прысвечаным гэтай даце, выступіў старшыня рэспубліканскага парламента М. І. Дзямянцей. Як адзін з галоўных вынікаў мінулага года ён назваў прыняцце Вярхоўным Саветам БССР звыш 440 прававых актаў. Што гэта дало народу? Тут не названы канкрэтныя паказчыкі. А вось газета «Звязда»ў перадавым артыкуле зазначыла: найбольш поўнае ўяўленне пра незалежнасць рэспублікі мы атрымалі ў красавіку, калі Цэнтр падняў цэны на большасць тавараў і прадуктаў і нават не папярэдзіў аб гэтым нашых кіраўнікоў. Насцярожваюць і адносіны да мовы: час ідзе, «а ўсе нашы афіцыяльныя структуры не пацяплелі да беларускага слова». Таму заканамерна паўстае пытанне: як дасягнуць пастаўленай у гістарычным дакуменце мэты? Як зрабіць рэспубліку незалежнай?

**Наш індэкс на будучы год — 63865.**

## БЕЛАРУСЬ НА МІЖНАРОДНЫМ РЫНКУ



Каля ста вядомых фірм прынялі ўдзел у другой міжнароднай выстаўцы Форуму «Свет-ПК-91», арганізаванай на ВДНГ СССР. На ёй прадстаўлены апошнія дасягненні ў галіне камп'ютэрнай тэхнікі. На роўных канкуравалі з навінкамі буйнейшых фірм з больш чым дваццаці краін свету беларускія персанальныя камп'ютэры, якія дэманстраваў на выстаўцы тэхніка-камерцыйны цэнтр навукова-вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі. На канферэнцыі, якая праходзіла ў час выстаўкі, з дакладам аб развіцці гэтай галіны ў Беларусі выступіў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. С. Шушкевіч.

НА ЗДЫМКУ: С. С. Шушкевіч (у цэнтры) з прадстаўнікамі тэхніка-камерцыйнага цэнтра.

## Паважаная рэдакцыя «Нашага слова»!

Я рэгулярна чытаю Вашу газету і шчыра дзякую за цікавыя матэрыялы. Нягледзячы на тое, што я жыву не ў Беларусі, мяне вельмі хвалюе лёс нашай мовы, культуры, гісторыі. Я ўжо пенсіянер і вельмі ўдзячны тым, хто змагаецца за адраджэнне нашай нацыі. Апрача «Нашага слова», чытаю «ЛІМ» і «Спадчыну». Праўда, атрымліваю іх ад свайго сябра з Беларусі, паколькі ў падпісцы на гэтыя выданні мне адмовілі. Вельмі хацелася б даведацца адрас рэдакцыі часопіса «Унія» ў Мінску.

**Г. ВЯРЦІНСКІ.** Украіна.

**АД РЭДАКЦЫІ:** Свае прапановы, заўвагі ды матэрыялы для часопіса «Унія» дасылайце на адрас: 220050, г. Мінск-50, абанентная скрыня № 224.

*ЧАРНОБЫЛЬ — БОЛЬ*

## Надзея памірае апошняй

**Новыя храмы падымаюцца ў раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У незвычайна кароткія тэрміны — меней чым за год — узведзена і царква ў Хойніках. Будавалі яе талакой. Але паколькі моладзі ўсё менш застаецца ў гэтых мясцінах, галоўны клопат лёг на плечы пажылых людзей. Царква становіцца апошнім суцяшэннем для тых, каму няма куды ехаць з роднага краю.**

У зону, якую многія пакідаюць, прыехалі новыя святары — айцец Уладзімір і айцец Яўген. Спраў у іх у Хойніцкім раёне нямала: некага трэба суцешыць, некаму дапамагчы. Часта сталі запрашаць на пахаванні: край жа прыкметна «пастарэў». Часам бываюць і радасныя падзеі: маладых вянчаюць, хрысцяць малых. І тады ў душы тых, хто прысутнічае на такіх цырымоніях, зноў успыхвае надзея: а, можа, бяда абыдзе іх, і адновяцца родныя, яшчэ нядаўна такія прыгожыя, мясціны.

На жаль, марам гэтым не збыцца. Але ж надзея, кажуць, памірае апошняй...



*...Старая Беларусь звалася Літвой*
Стар. 2

*Шэсце роднага слова па свету*
Стар. 4

## Якому народу служыце?

З такім пытаннем звярнуліся некаторыя беларускія пісьменнікі да XXXI з'езда КПБ, але адказу з'езд ім не даў. Ды гэта і не дзіўна, бо ўся эліта КПБ (А. Малафееў, В. Ціхіня, В. Пячэннікаў, Б. Макейчанка і інш.) толькі любіць выступаць ад імя беларускага народа, а на самай справе нігілістычна ставіцца да беларускай мовы і культуры. Чамусьці лідэры камуністычнай партыі Беларусі не валодаюць роднай мовай і не карыстаюцца ёю. Вельмі трапна сказаў пра іх паважаны пісьменнік Васіль Быкаў у інтэрв'ю газеце «ЛіМ» за 1.03.91 г., назваўшы КПБ «зацятым магільшчыкам нацыянальнай культуры».

Хіба можна паважаць гэтакіх кіраўнікоў, якія ігнаруюць мову народа, заўсёды выступаюць толькі па-руску?

А як жа выконвае закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы наш Вярхоўны Савет БССР і Савет Міністраў Беларусі? Большасць народных дэпутатаў ад апазіцыі на чале з паважаным З. Пазняком карыстаецца беларускай мовай. А калі ўзяць Прэзідыум Вярхоўнага Савета, то толькі С. Шушкевіч, Н. Гілевіч і П. Садоўскі карыстаюцца роднай мовай. А такія члены Прэзідыума, як М. Дземянцей, В. Шаладонаў, М. Грыб, У. Гаркун, І. Каратчэня, Д. Булахаў, якія вельмі часта падкрэсліваюць, што яны карэнныя беларусы?.. Дзе ж іх нацыянальная свядомасць і нацыянальны гонар? Няўжо яны такія няздатныя, што, увесь час жывучы на Беларусі, так і не змаглі авалодаць беларускім словам? Я часта слухаю па радыё работу сесіі Вярхоўнага Савета Украіны. Мне становіцца крыўдна і сорамна за наш Вярхоўны Савет. На Украіне ўсе парламентарыі — ад старшыні Вярхоўнага Савета УССР да звычайнага дэпутата-камуніста — выступаюць толькі па-украінску.

Не лепшае становішча з беларускай мовай і ў Савеце Міністраў БССР. Я рэгулярна сачу за выступленнямі членаў урада БССР па тэлебачанні. Вельмі прыемнае ўражанне застаецца ад выступленняў П. Краўчанкі, А. Бутэвіча, Я. Вайтовіча, М. Дземчука. А вось выступленні В. Кебіча, М. Мясніковіча, Л. Дашука, А. Сталярова ды некаторых іншых інакш, як халопствам, не назавеш. Таму хачу ў іх папытацца: якому ж народу служыце?

В. КАЙРО.
г. Віцебск.

АД РЭДАКЦЫІ. Аўтар папрасіў надрукаваць ягоны ліст і накіраваць газету з публікацыяй у ЦК КПБ, Вярхоўны Савет БССР і Савет Міністраў БССР.

## «Голас часу»

У чарговым нумары (№ 13/4) царкоўна-грамадскага часопіса «Голас часу» чытача зацікавіць артыкул Юрыя Весялкоўскага пра гісторыю напісання Евангелля і кнігі Дзеянняў Святых Апосталаў. Праблеме нацыянальных меншасцей у Польшчы прысвячае свой нарыс Антон Мірановіч «Беларусы а Рэчпаспалітая». У прыватнасці ён піша: «На працягу апошніх 45 гадоў беларусы на Беласточчыне знаходзіліся пад націскам польскай большасці. Ніхто не цікавіўся іх лёсам. Такая палітыка давяла да эканамічнага, культурнага і палітычнага знішчэння беларускай этнікі. Аднак, нягледзячы на гэта, яны ўсё ж існуюць у Рэчыпаспалітай. У 1990 годзе стварылі першую пасля Другой Сусветнай вайны беларускую партыю — Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднанне, якое змагаецца за нацыянальныя, культурныя і гаспадарчыя інтарэсы беларусаў. Між іншым, ад яе дзейнасці будзе залежаць, ці беларусы захаваюць сваю бацькаўшчыну і беларускі характар усходняй Беласточчыны».

Артыкул «Старажытная Беларусь» расказвае пра вядомага беларускага гісторыка-падзвіжніка Міколу Ермаловіча. Друкуецца заканчэнне артыкула А. Жука-Борскага «Наша гісторыя і уніі». Пад рубрыкай «Нарысы па гісторыі Беларусі» змешчаны працяг артыкула Юрыя Весялкоўскага «Нарадавольцы, Ігнат Грынявіцкі і цень К. Каліноўскага», а таксама працяг артыкула Ю. Свяржынскага «Язафат Кунцэвіч і яго аднадумцы», у якім аўтар выказвае свой пункт погляду на справу уніі на Беларусі і Украіне. Нумар заканчваецца ўрыўкамі з кніг І. Г. Антонава «Успаміны аб польскай акупацыі Гародзеншчыны ў 1919—1921 г.г.».

## Шануюць роднае слова

Шануюць роднае слова ў вёсцы Любані, што ў Лунінецкім раёне. Вось і нядаўна там было праведзена свята беларускай мовы «Мой родны кут, як ты мне мілы!»

Удзельнікі свята маглі азнаёміцца з цікавай выставаю, якую ладзіў раённы краязнаўчы музей. Шмат хто затрымліваўся каля персанальнай выстаўкі фотакарэспандэнта раённай газеты «Лунінецкія навіны» Рыгора Жука.

У імправізаванай хаце-чытальні можна было не толькі пазнаёміцца з новымі кнігамі беларускіх пісьменнікаў, з выставай, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, але і паўдзельнічаць у конкурсе на лепшае чытанне верша Максіма, а таксама на лепшы аповяд народнага жарту. Свае вырабы дэманстравалі народныя майстры ды майстрыхі.

Сцэнарый свята склалі настаўнікі Любанскай СШ і работнікі СДК. Сцэнарый удаўся. Прысутныя маглі не толькі паслухаць вершы, але і паласавацца народнымі стравамі, якія гатаваліся непадалёк ад сцэны, у зацішным месцы пад клёнамі.

На свяце разыгрывалася латарэя. Шчаслівчыкі атрымалі выйгрышы: куранятаў, качку, гусь, труса, барана і нават бычка.

Сцяпан СТОЙЧЫКАЎ.
в. Любань.

## «Татальны ўціск» як шлях да адраджэння

У заходніх краінах існуе тэрмін бізнесу — «татальны ўціск». Яго сутнасць: пакупніку пастаянна намаўляюць, што той ці іншы тавар самы лепшы. І дзеля пашырэння беларускай мовы я прапаную выкарыстаць гэты прынцып. Відаць, некаторых людзей гэта абурыць. Але глянем праўдзе ў вочы. Большасць насельніцтва Беларусі (я лічу — працэнтаў 60) ставіцца да беларушчыны абыякава. Яны «не супраць» яе, але і не «за», бо лічаць, што карысці з гэтай беларускай мовы ніякай, таму навошта яе вучыць. І па сутнасці яны маюць рацыю. Сучасны чалавек ніколі не стане траціць часу на тое, што яму, як ён лічыць, не спатрэбіцца. Таму трэба ўпэўніць яго, што беларуская мова ў хуткім часе будзе неабходна яму для нармальнага жыцця Беларусі.

Найбольш хуткай беларусізацыі можна дасягнуць праз «татальны ўціск». Як я гэта бачу? Уплыў гэтага прынцыпу павінен ахопліваць усе сферы нашага жыцця. Чалавек, прачнуўшыся раніцай і ўключыўшы радыё, павінен чуць усе перадачы на роднай мове. Дзеці яго павінны хадзіць у беларускі садок, у беларускамоўную школу. На працы ён мусіць карыстацца роднай мовай. Словам, беларуская мова ў жыцці чалавека павінна быць неабходнай, як паветра.

Вядома, гэта — ідэал, і яго наўрад ці можна дамагчыся. Але, я лічу, ісці трэба такім шляхам.

Што ў гэтай справе павінна рабіць ТБМ? Перш за ўсё — бізнес. Я неяк бачыў джэмперы, прывезеныя з Амерыкі ансамблем «Васілёк». Вельмі прыгожыя, з «Пагоняй». Хто перашкаджае распачаць выпуск такіх джэмпераў у нас, на Беларусі? Упэўнены, шмат людзей набыло б іх.

Футбольныя фанаты скардзяцца, што няма дзе набыць беларускі нацыянальны сцяг. Чаму б не дапамагчы ім? Я і мае сябры цікавімся рок-музыкай і нядаўна падрыхтавалі да выдання спецыяльны часопіс. Знайшлі паперу, друкарню, засталося толькі набраць матэрыялы на камп'ютэры. Звярнуліся за дапамогай у ТБМ, дзе пачулі ў адказ, што няма камп'ютэраў. Таму я лічу, што пры ТБМ проста неабходна стварыць бізнес-цэнтр, які б забіваў адразу «двух зайцаў»: зарабляў неабходныя таварыству грошы і прапагандаваў беларускую культуру.

Другі, не менш важны напрамак,— гэта стварэнне «беларускай інфраструктуры». Цяпер большасць дзіцячай літаратуры ў нас на рускай мове, а неабходна, каб усё — ад «Трох парасят» да «Трох мушкецёраў» — было на беларускай. Тут павінны плённа папрацаваць перакладчыкі. Першыя здабыткі ўжо ёсць. Я вельмі ўзрадаваўся, калі ўбачыў серыю кніг пад агульнай назвай «Скарбы сусветнай літаратуры». Неабходна выхоўваць свае нацыянальныя таленты і ў музыцы. Я лічу, што рок-гурты «Мроя» і «Уліс» зрабілі болей для справы нацыянальнага Адраджэння, чым усе лекцыі і гутаркі нашых «выхавацеляў» на гэтую тэму з моладдзю.

І, галоўнае, хай кожны задумаецца: «Што я магу зрабіць для Радзімы?» У такі час нельга сядзець склаўшы рукі. Калі ты ведаеш замежныя мовы — перакладай, калі ты граеш на гітары — выходзь на вуліцу ды спявай. Калі кожны зробіць тое, на што ён здольны, я ўпэўнены — Беларусь адродзіцца. Толькі актыўная праца зробіць нашу мару аб незалежнай і вольнай Бацькаўшчыне яваю.

Юрась ДРАЗДОЎ,
студэнт БДУ.

## Захоўваючы традыцыі

*Свая «сялянская хата» ёсць цяпер у дзяцей гомельскага дзіцячага садка № 148. Створана яна рукамі бацькоў і выхавальнікаў. Многія дзеці ўпершыню ўбачылі тут сялянскую печ і старажытны кухонны посуд, ткацкі станок і калаўрот, гліняныя гаршкі і саматканыя ручнікі. Дзеці не толькі з захапленнем удзельнічаюць у гутарках пра жыццё беларускай вёскі, але і з захапленнем развучваюць даўнейшыя песні, знаёмяцца з рознымі абрадамі.*

*Загадчыца дзіцячага садка № 148 Святлана Юр'еўна Пысіна расказвае дзецям пра побыт беларускай вёскі.*

*Фота І. ЮДАША (БЕЛТА).*

## Шаноўны рэдактар «Нашага слова»!

Прачытаўшы Вашу абвестку ў газеце «Беларус», я хацеў бы падпісацца на Ваш штотыднёвік. Калі ласка, паведаміце мне, як атрымаць «Наша слова» і як пераслаць грошы.

Дзякую. З пашанаю Мацей СМАРШТОК, ЗША.

АД РЭДАКЦЫІ: Шмат нашых суродзічаў, якія воляю лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, дасылаюць у рэдакцыю лісты, у якіх просяць растлумачыць, як падпісацца на «Наша слова». Паведамляем, што зрабіць гэта можна праз Усесаюзнае аб'яднанне «Міжнародная кніга» ў Маскве ў тым выпадку, калі ёсць паштовае пагадненне з патрэбнай замежнай краінай.

Адрас «Міжнароднай кнігі»: 117049, Масква, вул. Дзімітрава, 39, «Міжнародная кніга».

Пры ўмове матэрыяльнай падтрымкі «Нашага слова» рэдакцыя таксама будзе дасылаць газету тым нашым замежным чытачам, якія папярэдне паведамяць свой адрас.

*Ёсць і такое меркаванне*

## *Летува — не Літва*

«Праўда звягі не баіцца»
(З народнага)

КАЛІ мы сёння, нарэшце, вяртаем гістарычна-дзяржаўную сімволіку, тады, безумоўна, трэба вяртаць і гістарычнае імя народа і бацькаўшчыны.

Герб жа «Пагоня» ў гісторыі завецца літоўскім ад імя дзяржавы. Да 1772 года, як вядома, іншага агульнадзяржаўнага імя нашай бацькаўшчыны, апрача імя «Літва», не існавала. Толькі, праўда, Смаленшчына з 1513—14 года ў граматах вялікага князя Масковіі Івана III была запісана — «Белая Русь» (першыя «хрэсьбіны»).

Пачынаючы з 1772 года, пасля захопу Расійскай імперыяй нашай бацькаўшчыны па Дняпро, адбыліся і другія «хрэсьбіны» з наданнем таго ж самага наймення — «Белая Русь». Праз 20 гадоў, пасля захопу па Мінск,— трэція «хрэсьбіны». І нарэшце — чацвёртыя, у 1795 годзе, пасля акупацыі ўсяе нашай бацькаўшчыны. Такім чынам, найменне «Белая Русь» і стала афіцыйным для ўсяе Літвы.

Усведамляючы занікненне гістарычнай памяці і бароночы свой гонар, продкі нашы ніяк не маглі пагадзіцца з гэтым і таму звалі сябе па-старому — «літвіны», бацькаўшчыну сваю — «Літвой». Але знайшліся і такія, каму найменне «Белая Русь» спадабалася, больш таго,— яны пачалі ім ганарыцца: маўляў, «Белая» — значыцца, этнічна чыстая, свабодная, непрыгонная і г. д.

Таму, і не толькі таму праз 45 гадоў (1840 год) адбыліся яшчэ адны, чысцютка імперскія «хрэсьбіны» нашай бацькаўшчыны, з наданнем ёй наймення «Северо-Западный край». Падразумявалася ж — Расійскі край. Тут варта зазначыць, што падобным чынам былі ахрышчаны землі і іншых народаў усходніх славян. Гэтак, мяркую, нарадзіліся наступныя найменні: «Вялікая Русь», «Белая Русь» і «Чырвоная Русь», замест адпаведных» «Масковія», «Кіеўская Русь», «Літва» і «Галіцыя». Ці не тут хаваецца «маленькі» імперска-захопніцкі палітычны сакрэцік?

Як вядома, 25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), а ў 1919 годзе ў Смаленску — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР).

Такім чынам, бацькаўшчына наша за сваю гісторыю апошняга тысячагоддзя насіла наступныя найменні:

1. Літва — больш 800 гадоў (да 1795 г.).
2. Белая Русь — 45 гадоў (1795—1840 г.).
3. Северо-Западный край — 78 гадоў (1840—1918 г.).
4. Беларуская Народная Рэспубліка — 1 год (1918—1919 г.).
5. БССР — 72 гады (з 1919 г.).

Значыцца, як па суверэннасці, так і па даўгавечнасці імя «Літва» — тое найменне нашай бацькаўшчыны, з якім, як кажуць, нас Усявышні на свет божы ўсіх разам пусціў. А гэта якраз накладвае на нас абавязак неадкладна вярнуць ёй слаўнае гістарычнае імя.

Безумоўна, пры ажыццяўленні такой акцыі ўзнікнуць і перашкоды, бо суседнюю краіну, якая да 1410 года не ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, гістарычная назва якой Жмудзь, а з 1918 года — Летува, шмат хто ўжо сёння заве «Літвой», хоць гэтае слова ніякай сэнсавай сувязі са словам «Летува» не мае. Накшталт: Ірак — Іран ці Лівія — Ліван і іншыя. Дый самі жмудзіны ўжо больш за 70 гадоў, як сваю бацькаўшчыну назвалі самахоць Летувай, дзеля чаго была і легенда прыдумана.

Умацаванню ж такой веры садзейнічала ў першую чаргу фальсіфікацыя нашай гісторыі, а таксама — пазбаўленне голасу гістарычнай праўды самога народа з прычыны адсутнасці на працягу двухсотгоддзя ўласнай дзяржаўнасці.

Вось і ўзаконьваецца «пераклад» слова «Летува» на «Літва». Але ж прабачце! Назовы ці імёны не перакладаюцца. Нават калі гэта адно і тое ж слова. Ніхто ж, напрыклад, не назаве Ёнаса Янкам ці Іванам, Ёганам, Джонам. Кожнаму гісторыку добра вядома, што сапраўдная Літва нарадзілася паміж Кобрынам, Слонімам і Пінскам (глядзі: Салаўёў, «Россия с древнейших времен», —1857, т. I, 2-е выд, с 69), што мова літвінаў — старабеларуская, што радавод літоўскіх князёў — полацкая дынастыя Рагвалодаў, што сённяшняя Летува (Жмудзь без Віленшчыны) да 1410 года была пад Тэўтонскім ордэнам і г. д. Зрэшты, К. Маркс і іншыя, у тым ліку і серб Юрый Крыжаніч, літвінаў называлі славянамі (Ключэўскі, Сочинения,— 1908. т. 3, 4-е выд, с 252). Здавалася б, і сумнявацца няма прычыны, што старая Беларусь звалася Літвой. Але двухсотгадовая палітыка наўмыснай фальсіфікацыі дасягнула свае мэты: канцылярскую хлусню назвалі праўдай.

Дык што ж выходзіць, паважаныя спадары?! Няўжо і надалей мы змушаны будзем не прызнаваць гісторыю? Адмаўляцца ад мінулага свайго народа, хлусіць самім сабе і добрым людзям? Але ж не трэба забываць, што Вярхоўны Савет БССР абвясціў нашу рэспубліку суверэннай дзяржавай. Значыцца, прыйдзецца выходзіць на міжнародную арэну самастойна са сваёй гісторыяй і адпаведным імем. Інача з нас смяяцца будуць! Вось чаму сёння праблему гэту неадкладна вырашаць трэба. Ад яе мы нікуды не дзенемся. А каб вырашэнне было больш паспяховым, трэба, думаю, спярша запісаць так: «Літва-Беларусь» альбо «Літва (Беларусь)». Такі запіс будзе садзейнічаць як вонкавай інфармацыі, так і павольнай адаптацыі (могуць быць і іншыя варыянты).

Цімох ВОСТРЫКАЎ,
г. Гомель.

*Паэзіі радок чароўны*

*Васіль СУПРУН*

## Наш шлях

Цяжка цяпер
сярод стосу здагадак
вынайсці зерне стаптанай праўдзівасці.
Наша гісторыя — мноства загадак,
здрадна прысыпаных пылам хлуслівасці.

Сметнікам сталі курганы магільныя,
Дзеі герояў няславай забруджаны.
Праўда і вера — выгнанцы бяссільныя —
хамствам і гвалтам на здзекі асуджаны.

Мова і тая, як наймічка хілая,
выжыта з хаты на прызбу вясковую.
Спадчыну ж нашу прысвоілі сілаю
брацці-суседзі ў гадзіну суровую.

Оргіі лютасці, здзеку бязмернага
край запалонілі,
волю дратуючы.
Дзе ж нашы сілы?
Дзе кліч Князя вернага,
з цемры, што выведзе,
гонар ратуючы?!

Інта, 1952 г.

*Леў МАРОЗ*

## Згадка пра М. Багдановіча

«Багдановіч, зорніце! Венера ўзышла...» —
Голас-мроя каханай.
Рана вочы яму засцілае імгла.
Памірае ён рана.

О праклятая смерць! Не бяры, не бяры!
Дай упіцца каханнем!..
Памірае паэт ясным днём на зары
Са святым парываннем.

А за вокнамі мора лагодны блакіт
Лёг ад краю да краю...
Верыць ён, што зусім не адыдзе ў нябыт, —
Беларусь прыгадае.

А папараць-кветка ўжо адцвіла...

Фотаэцюд У. САПАГОВА.

*Міхась МЕЛЬНІК*

## Беларусам

Гэй, абуджайся, народ!
Хопіць табе быць нейтральным...
Бо старажытны твой род
З племя славянаў адчайных.

Продкі твае — крывічы —
Мову табе перадалі...
Толькі чаму ты маўчыш,
Быццам язык адарвалі?!

Выкінь з душы ты раба,
Будзь па-сапраўднаму гордым
І не схіляй жа ілба
Перад усімі, хто подлы.

Досыць, каб нейкі вар'ят
З мовы тваёй насміхаўся,
Досыць, каб кат-бюракрат
Імем тваім прыкрываўся.

Твой абавязак і мой —
Здзейсніць святое права,
Каб на радзіме сваёй
Мова твая панавала!

*Яўген ГУЧОК*

* * *

Беларусы — балтарусы,
Балтарусы — беларусы,
Вам сказаць не пабаюся:
Вас адмовілі ад мовы,
Вашай мовы,
роднай мовы...
А без мовы
хто вы,
што вы?! —
Быдлам быць
заўжды гатовы!

* * *

Ўсё жыццё
па-беларуску
Нам баліць,—
і мы маўчым...
Дык чаму ж па-беларуску
Мы хоць раз не закрычым?!

*Людміла РУБЛЕЎСКАЯ*

## Плач русалкі

Як святкавалі шчэ Купалле
На берагах ракі маёй,
З Усходу воі прыскакалі
Смуглявай хіжаю гайнёй.
Я доўга чула віск і лямант —
Захопнікаў усе клялі.
Ды людзі ўпэўніліся самі.
Што крыкам не вярнуць зямлі.
Мацнейшыя пабралі зброю,
Сплылі — куды чаўны нясуць.
Другія ж — пераймалі строі,
І мову прыхадняў, і суд.
Там, на гары, стаяў будынак —
Лічыла нават я — святы.
Плыў па вадзе яго адбітак,
Нібыта ветразь залаты.
Каб коса не глядзеў чужынец,
Туды баяліся хадзіць,
Пакуль мясцовы баязлівец
Не загадаў той Храм спаліць.
Цячэ вада — чарот гайдае,
І зоры ззяюць праз чарот.
І ўжо тутэйшым называе
Сябе заваёваны народ.
І на Купалле не лунаюць
Дзяўчаты ў лозах ля ракі —
Прабабкі іх даўно аддалі
Чужынцам белыя вянкі...

*Культура мовы*

# З КУПАЛАВАЙ ГРАМАТЫКІ

***Вучыцца ў Янкі Купалы, вучыцца ў Якуба Коласа... Не адно дзесяцігоддзе чуем, паўтараем гэтыя словы. Але сёння, на жаль, яны гучаць болей як своеасаблівы філалагічны штамп. Моўная спадчына песняроў Беларусі, якая вызначаецца глыбокай народнасцю і нацыянальнай самабытнасцю, застаецца ў шмат якіх адносінах нявыкарыстанай. А тым часам лёгка падхопліваюцца публіцыстычныя, афіцыйныя пласты моўных адзінак — не толькі словы, фразеалагізмы, але і сінтаксічныя канструкцыі. Гэта пераважна калькі ці непасрэдныя запазычанні з рускай мовы, якія актыўна пашыраюцца праз сродкі масавай інфармацыі.***

СПРЫЧЫНІЛАСЯ да такога становішча досыць ходкая ў сферы адукацыі думка, паводле якой беларуская мова мае адметнасць у лексіцы, фразеалогіі, а што да сінтаксісу, дык ён амаль не адрозніваецца ад рускага. Гэтакаму разуменню (правільней — непаразуменню) спрыяла тое, што ў 30-я гады былі рэпрэсіраваны шмат якія беларускія мовазнаўцы, а працы іх забароненыя. Доўгі час падручнікі, дапаможнікі беларускай мовы ствараліся зазвычай на аснове рускіх. Браліся (перакладаліся) не толькі гатовыя правілы, але часткова і прыклады з твораў рускіх пісьменнікаў. Апошняе лічылася бясспрэчнай праявай інтэрнацыяналізму і патрыятызму.

На такой сацыяльна-ідэалагічнай базе, абапіраючыся на такую лінгвістычную літаратуру, рыхтавалі настаўнікаў, а тыя ў сваю чаргу вучылі ўсё новыя пакаленні дзяцей. І як вынік — мова страчвала натуральнае аблічча, адрывалася ад сваіх каранёў. Вось чаму ёсць патрэба ўсім, хто працуе ў галіне роднай культуры, часцей звяртацца да моўных скарбаў, якія пакінулі па сабе класікі беларускай літаратуры,

Звернем увагу на некаторыя Купалавы ўжыванні. Найперш хоць бы дзеля таго, каб малады чытач адэкватна ўспрымаў купалаўскія творы. А потым — гэта, напэўна, у ідэале! — дзеля «адраджэння страчаных рысаў беларускай нацыянальнай мовы» (П. Сцяцко). Прачытаем першую страфу верша «Спадчына».

*Ад прадзедаў спакон вякоў*
*Мне засталася спадчына;*
*Паміж сваіх і чужакоў*
*Яна мне ласкай матчынай.*

Не ведаю, як хто, а я адзін час успрымаў апошні радок так, нібы тут прапушчана слова — *здаецца, ёсць, з'яўляецца...* Калі пачынаеш глыбей знаёміцца з беларускай мовай, у прыватнасці мовай Янкі Купалы, то заўважаеш, што падобныя канструкцыі (яна ласкай) не адзінкавыя: *Хто смяецца са слёз — **сам прычынай** тых слёз...* («Дзе б і праўда жыла...»). *У вёсцы ў роднай **ён добрым суседам*** («Адплата кахання»). З ілюстрацый відаць: творным склонам назоўніка без звязкі выражаецца выказнік.

Чаму ж мы амаль не ведаем гэтакага выказніка? У вялікай меры таму, што ён не падаваўся ў школьных, інстытуцкіх падручніках, увогуле заставаўся па-за ўвагай. У старажытнай беларускай мове сустракалася такая форма выказніка, яе адлюстроўваюць помнікі пісьменства і фальклорныя творы. *Над сваім **таварам усякі панам*** (Прыказка). (У сказах-прыкладах выдзелены дзейнік і выказнік). Дый сёння яна жывая ў літаратурнай мове. *Зор, як тэм у жыцці і праблем, **Кожная — цяжкай ношаю*** (А. Лойка). ***Такая ноч** — чаканай госцяй, і ўсцешна мне прымаць яе* (В. Аксак). *«І пачварным **таўром** на зямлі незагойная **рана*** (В. Пазнякевіч)... *Журбою бацькавай — мая Душа напоўніцца часамі: На паэтычнай ніве я — **Аднаасобнікам** таксама* (С. Валодзька). *А **хормайстрам** — **брыгадзір*** (Звязда. 14.03.91).

І зноў Купалава:

*Я б патрапіў сказаць,*
*Што і я — чалавек...*

Радкі з верша «Я мужык-беларус». Памятаем і згадваем іх, як штосьці вельмі натуральнае, зразумелае і нібыта прамоўленае кожным з нас. Такая ўжо ўласцівасць праўдзівага таленту.

Складаны выказнік, выражаны спалучэннем асабовай формы дзеяслова *патрапіць* (са значэннем «змагчы, здолець») і неазначальнай формы другога дзеяслова, у творах Янкі Купалы сустракаем не раз.

Зрэшты, слова *патрапіць* у тым ліку ў складзе выказніка, фіксуе Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Чаму ж тады мы да яго звяртаемся? Каб часцей бачыць на старонках друку і чуць у вуснай мове! Цяпер жа пераважаюць выказнікі аналагічнай будовы з дапаможнымі дзеясловамі *змагчы, здолець*. *Хіба першы сакратар не **змог бы прачытаць** на з'ездзе даклад па-беларуску?* (Звязда. 25.05.91). *Бабошка зрэдку піша пісьмы, на іх не хто іншы, як Вася, адказвае. І цяпер **здолее напісаць** тое, што трэба* (І. Навуменка).

У плане культуры мовы цікавыя таксама спалучэнні дзеясловаў з прыслоўем *далей* тыпу *гаворыць далей* (са значэннем 'працягваць гаварыць'). *Зімой было гэта,— **гаворыць** ён **далей...*** («Сват»). *...Яны ж [п'яўкі] каб дбалі: **Смокчуць далей!..*** («Ігнат і п'яўкі»). *Досвіта ў вёсцы далёкай лучыны **Далей мігцяцца** па-свойму* («Палац»). Такая форма выказніка мае пэўнае пашырэнне ў мастацкіх і публіцыстычных тэкстах. *Далёка глуха прагудзеў гром. Толькі тады яны сталі прыслухоўвацца, але **збіралі** ягады **далей*** (П. Пестрак). *Песня выходзіла добра, можна было **спяваць далей**, і першы голас узяў на поўную сілу, забіраючы вышэй і вышэй* (А. Кудравец). ***Размаўляючы далей**, ён сказаў: «Уладзіка Хадыкі ўжо няма»* (ЛіМ. 24.05.91).

Блізкія да гэтых спалучэнні *быць далей, трываць далей, быць даўжэй* са значэннем 'працягвацца, прадаўжацца'. *Такое становішча не можа **быць далей*** (Я. Колас). *Страшэнны быў крык на калідоры, калі адрывалі маці ад дзяцей.* ⟨...⟩ *Урэшце ўдалося няшчасную ўсадзіць у карцэр. Крык, аднак, **трываў далей**; То ж здаровы розум кажа, што **даўжэй** гэтак **быць не можа*** (Ф. Аляхновіч).

Адзначаныя канструкцыі з прыслоўем *далей* не з'яўляюцца сёння функцыянальна актыўнымі.

А вось спалучэнне *як не* (са значэннем 'ледзь не'), што ўжываў Янка Купала, прыкметна пашырылася ў літаратурнай мове. *...З грудзей **як не выскача** сэрца, Душа кудысь рвецца... ўсё рвецца...* («З песень аб вясне»). *Пачуў, стаў весел галубок, Ад радасці **аж як не плача*** («Паляўнічы і пара галубкоў»). *Дзеці дурэюць **як школы не развернуць*** (Я. Колас). *Магдалена проста **як не рвалася на часткі*** (К. Чорны). *Галубоўскага **як не трэсла*** (П. Місько). ***Як не паўгода** ў старых не быў* (Чырвоная змена. 27.02.75). *Чубар колькі часу маўчаў, а Зазыба глядзеў на яго з нейкім вострым, **як не** шчымлівым пачуццём...* (І. Чыгрынаў). [*У горадзе*] *меў вялікі дом — **як не палац** — і ганаровае месца ў думе* (М. Лупсякоў).

Спалучэнне ***як не*** ўваходзіць у сінанімічны рад: *ледзь не, траха не, трохі не. Сэрца яе **ледзь не разрывалася** ад гора і напружання* (В. Быкаў). *Грызня была **траха не кожны дзень*** (К. Чорны). *І аднак жа **трохі не пацалаваўся** з царом пушчы. Спыніўся за колькі крокаў, калі зубр павольна павярнуў галаву* (І. Шамякін).

Такім чынам, Купалава спадчына, якая адлюстравала культурную, духоўную пераемнасць пакаленняў нашага народа, дае каштоўны матэрыял для асэнсавання шляхоў развіцця беларускай мовы, павышэння яе культуры.

Алесь КАЎРУС.

# «Паралелі» выдаюцца ў Іўі

Прашу паведаміць пра наш часопіс. Заснавалі яго я і спадар Лявон Келдановіч, дырэктар Лежневіцкай сярэдняй школы.

У першых нумарах мяркуем змясціць, у прыватнасці, наступныя матэрыялы: Жэлю Жэлеў . Фашызм (Таталітарная дзяржава); Гісторыя нескарыстаных магчымасцяў. Размова з Зямовітам Фядэцкім (Ці гаварыў Ягайла па-літоўску? Аб жмудскіх закляццях і беларускім Каране. Было два Міцкевічы... Чаму не вернемся ў Вільню); Яраслаў Дашкевіч. Палітычнае ашуканства ці правакацыя?.. (Крах украінізацыі 20 30 гг.); Аляксандр Белай. Два апавяданні.

Мяркуемы кошт паасобніка — 2 рублі. Часопіс пакуль што будзе выходзіць нерэгулярна, у далейшым — штомесяц. Каб аформіць падпіску, трэба даслаць адвольную суму грошай паштовым пераводам на адрас: Гродзенская вобласць, 231330, Іўе, абанентная скрынка 14, Гайдуку Юрыю Іванавічу. У пісьмовым паведамленні да перавода трэба пазначыць: «Паралелі» ды напісаць словам колькасць патрэбных паасобнікаў. Часопіс будзе дасылацца за кошт падпісчыка.

Для ахвяраванняў арганізацый ды прыватных асобаў: наш разліковы рахунак 363302 у Іўеўскім аддзяленні аграпрамбанку.

Я лічу сваім грамадзянскім абавязкам распаўсюджваць беларускае слова. Раблю так. Выходжу на аўтастанцыю ў Іўі ды сяджу там цэлы дзень. Шмат хто першы раз бачыць «Свабоду» ды «Навіны БНФ» «Адраджэнне». Шмат хто нават баіцца падыходзіць да мяне (побач — бел-чырвона-белы сцяг). Але ж бяруць, ды і нядрэнна. Акрамя гэтага, пасняваю прачытаць гару літаратуры. І вельмі крыўдна за «Наша слова», якое не даходзіць да стольніх людзей! Буду і надалей дапамагаць распаўсюджваць газеты, часопісы ды іншыя друкаваныя выданні на беларускай мове. Прашу Вас паведаміць аб гэтым сваім чытачам. Няхай звяртаюцца на адрас рэдакцыі «Паралеляў»: Гродзенская вобласць, 231330, Іўе, абанентная скрынка 14,

ГАЙДУКУ Юрыю Іванавічу.

## Беларускае замежжа

*16 студзеня 1951 года ў Нью-Йорку быў адкрыты Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Яго першымі супрацоўнікамі сталі беларускія навуказнаўцы, пісьменнікі, мастакі і артысты, што пасля Другой сусветнай вайны апынуліся за межамі Бацькаўшчыны. З 1952 года Інстытут выдае літаратурна-мастацкі часопіс «Запісы» на англійскай мове, у якім публікуюцца матэрыялы па розных праблемах беларусазнаўства: мове, літаратуры, мастацтву, гісторыі, рэлігіі, адукацыі і друку.*

*Прапануем чытачам пераклад артыкула Валянціны Пашкевіч «Вывучэнне беларускай мовы ў англамоўным асяроддзі», які перадрукоўваем з часопіса «Запісы».*

# ВЫВУЧЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў АНГЛАМОЎНЫМ АСЯРОДДЗІ

Любая этнічная супольнасць імкнецца зацвердзіць сябе на новым месцы жыхарства праз захаванне культурнай самабытнасці. І адным з найважнейшых сродкаў для гэтага з'яўляецца выхаванне павагі да сваёй мовы ў маладога пакалення. Гэта мэта дасягаецца галоўным чынам, калі карыстаюцца роднай мовай дома. Але таксама не менш важна зацвердзіць мову ў суполцы праз стварэнне школ і выданне адпаведных падручнікаў для іх.

Так было і ў беларусаў Паўночнай Амерыкі. Тут настаўнікі кожнай суполкі выраўшалі складаную задачу арганізацыі навучання ў нядзельных школах, дзе — як аказалася — яны хутка сутыкнуліся са шматлікімі цяжкасцямі.

На ранняй ступені адукацыі галоўная задача, якая паўстае перад дзецьмі беларускіх эмігрантаў,— вывучыць перш-наперш англійскую мову. На роднай яны больш ці менш ужо гавораць. Дзеці адносна лёгка вучацца чытаць і пісаць па-беларуску па тых падручніках, якія прывезены з Радзімы. Таксама вельмі проста навучыць іх спяваць беларускія песні і ўдзельнічаць у беларускіх спектаклях. Тым больш, што гэта дзецям вельмі падабаецца.

Але пры ўсім пры тым узнікалі і сур'ёзныя праблемы. Адна з іх — недахоп беларускіх падручнікаў, асабліва для навучання чытанню і пісьму. Як ужо сказана, многія карысталіся падручнікамі, выдадзенымі ў Савецкай Беларусі. Аднак тут узнікала сур'ёзная праблема. Матэрыялы, змешчаныя ў такіх кнігах, былі моцна заідэалагізаваныя. Да таго ж у іх выкарыстоўваецца арфаграфія і мова, прынятая ў час савецкіх рэформаў беларускай мовы 1933 і 1957 гадоў. У выніку чаго беларуская мова ў афіцыйных школьных падручніках часцей прыпадабняецца да дрэннай рускай, чым добрай беларускай.

Сказаным вышэй я хачу растлумачыць, чаму выкарыстанне падручнікаў, выдадзеных у Беларусі, немагчыма ў нас і чаму патрэбна друкаваць свае.

Гэта стала відавочным для настаўнікаў нядзельных школ, і многія з іх пачалі ўдзельнічаць у складанні і публікацыі беларускіх чытанак, граматык і кніг па гісторыі.

У 1958 годзе беларуская школа ў Чыкага выдала «Першую чытанку» для пачаткоўцаў, аўтарам якой стаў Вацлаў Панусевіч. Кніга мае шмат малюнкаў, змяшчае дбайна падабраныя тэксты. На жаль, з-за недахопу сродкаў яе давялося друкаваць на капіравальнай машыне. Дробныя машынапісныя літары чыталіся з цяжкасцю, асабліва маленькімі дзецьмі. Тым не менш падобныя выданні мелі немалое значэнне для свайго часу.

У 1961 годзе беларускае кнігавыдавецтва ў ЗША працягвала паспяхова развівацца, асабліва калі Парафіяльная Рада Беларускай праваслаўнай царквы св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі) зрабіла фотаспосабам беларускую чытанку пад рэдакцыяй А. Радкевіча «Беларускі лемантар». Кніжку ўдалося выдаць значным тыражом. Не страціла сваёй каштоўнасці выдадзеная ў 1946 годзе ў Мюнхене чытанка, складзеная Апалоніяй Савёнак, настаўніцаи беларускай школы ў лагеры для перамешчаных асоб у Міхельсдорфе.

Была перавыдадзена ў 1961 годзе на ксераксе і распаўсюджана ў Саўт-Рыверы кніга «Беларуская школа: першая пасля лемантара кніга для чытання», складзеная Канстанцінам Езавітавым (Рыга, 1926 г.). Гэты падручнік аказаўся ў нейкай меры па свайму зместу састарэлым.

Другі падручнік — «Лемантар для школы і хатняга навучання» (Нью-Йорк, 1964 г.), складзены былым беларускім настаўнікам Язэпам Гладкім, які пасля Другой сусветнай вайны ўзначальваў школу ў лагеры для перамешчаных асоб у Ватэнштэце. Гэты дасведчаны педагог лічыў, што для дзяцей, якія наведваюць англамоўныя школы, будзе значна лягчэй вывучаць беларускую мову, карыстаючыся лацінскім алфавітам. Таму дзве трэція кнігі напісаны лацінкай і адна трэцяя — кірыліцай. Але нават і гэта было б прыймальным, каб змест кнігі не прыпадабняўся да чытанкі, выдадзенай у Рызе ў 1926 годзе.

Узнікалі і новыя цяжкасці і праблемы. Вучні, што нарадзіліся ў Паўночнай Амерыцы, мелі абмежаваныя веды па беларускай мове. Асабліва дзеці са змешаных шлюбаў. Невялікія беларуска-англійскія слоўнічкі, змешчаныя ў чытанцы В. Пашкевіч, былі недастатковыя: вучні з цяжкасцю разумелі змест апавяданняў, многія словы там былі ім незнаёмыя. Патрэбныя былі двухмоўныя падручнікі, якія б утрымлівалі вялікі беларуска-англійскі слоўны запас. Распрацоўку такога падручніка распачала В. Пашкевіч.

З 1966 года таксама актывізавалася выданне падручнікаў на беларускай мове, дзякуючы намаганням маладога настаўніка-энтузіяста Юркі Станкевіча. Інжынер па прафесіі, ён выкладаў у беларускіх школах у Нью-Йорку і Кліўлендзе. У 1966 годзе ён выдаў «Падручнік беларускай мовы для другога класа. Правапіс і развіццё мовы». Юрка Станкевіч працаваў таксама над чытанкай, якая з'явілася ў 1966 годзе. Ён жа падрыхтаваў падручнік па гісторыі Беларусі. У 1968 годзе былі выдадзены «Першая чытанка пасля лемантара» пад рэдакцыяй Валянціны Пашкевіч, настаўніцы беларускай нядзельнай школы ў Таронта, і «Кароткі агляд гісторыі Беларусі» пад рэдакцыяй П. Рагача(псеўданім Юркі Станкевіча).

Але па-ранейшаму існавала патрэба ў двухмоўных падручніках з падрабязнымі беларуска-англійскімі слоўнікамі. Заснавальнік Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч, дзякуючы ўласным намаганням і пры падтрымцы Беларускіх інстытутаў навукі і мастацтва Канады і ЗША, здолеў стварыць спецыяльны фонд для выдання беларускіх падручнікаў. Названыя ўстановы забяспечылі неабходную навуковую дапамогу, а федэральны ўрад Канады, у адказ на просьбу Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады, выдзеліў 15 тысяч долараў на выданне падручніка «*Fundamental Byelorussian*. Беларуская мова», складзенага Валянцінай Пашкевіч. Першая частка гэтага падручніка выйшла ў 1974 годзе пад рэдакцыяй прафесара Антона Адамовіча. У 1978 годзе выйшла другая частка.

У кнізе маюцца тэксты для чытання, пры кожным з тэкстаў або дыялогу ёсць слоўнічак, а таксама правілы беларускай фанетыкі і марфалогіі як на англійскай, так і на беларускай мовах, а таксама практыкаванні для вуснай і пісьмовай працы. Апрача таго, у кожнай частцы падручніка ёсць Беларуска-англійскі і Англа-беларускі слоўнікі, якія павінны зрабіць даступнымі беларускія тэксты нават для пачаткоўцаў. У кожным беларускім слове абазначаны націск, і гэта мае асаблівае значэнне для тых вучняў, што нарадзіліся не ў Беларусі, дазваляе ім пазбегнуць памылак.

Падсумоўваючы гісторыю стварэння беларускіх падручнікаў у Паўночнай Амерыцы, можна зрабіць выснову, што хоць падручнікі задумваліся рознымі людзьмі, матэрыялы кожнай наступнай кнігі не паўтаралі папярэдняй. Нават стваралася ўражанне, нібыта гэта праца некім планавалася і каардынавалася. Гэта сведчыць пра тое, што падручнікі ўкладаліся прафесійна падрыхтаванымі людзьмі. Вядома, пры каардынацыі вынік мог быць яшчэ лепшым. Некаторых памылак і недахопаў, напэўна, удалося б пазбегнуць. Але і праяўленне індывідуальнай ініцыятывы значыць вельмі многа.

**(Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва, Нью-Йорк, 1983).**

**Пераклала з англійскай мовы Л. Баршчэўская.**

# ЛЯКАРНЯ ЧАРАЎНІЦЫ ПОТАХІ

***«Народная медыцына ўжывае два спосабы лячэння: расліны і шэпты». Да такога вываду прыйшоў студэнт-медык Антон Жаўрыд, наведаўшы шэраг раёнаў Беларусі. Асабліва яго ўразіла сустрэча з «вядомай у сваёй ваколіцы «лекаркай-знахаркай» Садоўнікавай Параскай па мянушцы «Потаха», якая жыве на хутары Ванілы Самулкаўскага сельсавета Чавускага раёна». Пра яе і іншых вясковых чараўнікоў ён напісаў у штомесячніку «Наш край» (№ 8—9, 1929 года).***

***Здзіўляе прастата і надзейнасць, зыходзячы з каментарыяў студэнта і наогул з народнага вопыту, апісаных рэцэптаў. Напрыклад, хрэн труць і прымаюць (ядуць) ад перапою гарэлкай; свежае лісце капусты ўжываюць ад болю галавы; часнок разам з селядцом — ад глістоў, цыбуля, спечаная на агні, гоіць балячкі; лісце чорнай вольхі таксама прыкладваюць да балячак (скул)...***

***У артыкуле абыходзіцца ўвагай другі спосаб народнага лячэння — шэпты. Пэўна, зноў жа па той самай прычыне: цемната, забітасць. А вось другі артыкул, змешчаны ў тым жа штомесячніку, гэты недахоп кампенсуе. Хоць гаворыцца ў ім пра такую ж чараўніцу, як і Потаха. Прапануем увазе чытачоў некалькі ўрыўкаў з гэтага артыкула (Д. Васілеўскі . «Беларускія чараўнікі і іх зелле» — «Наш край», № 8—9, 1927).***

***У дадатак да артыкула «Наш край» надрукаваў урывак з «лячэбніка» і рэестр (спіс) названых там траў.***

«Летам 1926 года даследчая экспедыцыя Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства па апісанню Дубровенскага раёна ў вёсцы Мардашэвічы, былай Тухінскай воласці, напала на вельмі цікавы помнік чараўнічай літаратуры. У сялянкі Ганны Шаранда, 50 год, студэнтам рабфака ўдалося здабыць «лячэбнік», па якім мясцовыя чараўніцы лячылі насельніцтва на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў... Лячэбнік змяшчае ў сабе апісанне 77 лекавых траў. Напісаны ён на расійскай мове, у якой сустракаецца шмат беларускіх слоў і канчаткаў.

***Дай, божа, анельску сыць, а мядзведжу сілу (Федароўскі)***

Вёска Мардашэвічы, дзе быў знойдзены гэты «лячэбнік», ляжыць на правым беразе Дняпра, вёрстах у 7 ад мястэчка Дубровна, і мяжуе з вядомымі Верацейскімі, або Асінаўскімі балотамі. На гэтых балотах ёсць выспы з паселішчамі, куды лёгка дабрацца толькі зімой, калі балота трохі падмёрзне. Гэта спрыяла захаванню сярод насельніцтва розных старасвецкіх забабонаў і прыкмет.

Аб старадаўнасці запісаў «лячэбніка» сведчаць тыя меркі, якімі «лячэбнік» вымярае ўзрост траў. Пераважна такімі меркамі даўжыні з'яўляюцца страла, локаць, калена і пядзь.

Травы разлічаны на дапамогу не селяніну-земляробу, а воіну, гандляру і авантурніку. Такіх чараўнічых сродкаў, якія б дапамагалі лепшаму ўраджаю хлеба, прыросту збожжа, зусім няма... Калі чалавек ведае і носіць пры сабе траву «Тень» (№ 1), то ён не баіцца ніякага злога чалавека, дабіваецца пачоту, чыноў... Трава «Царевы Очи» (№ 2),

***Жывіце дужанькі, здаровенькі! — Жыві і ты з богам! (Нікіфароўскі)***

калі яе насіць пры сабе, вызваляе ад раны і робіць чалавека ў часы падарожжа лёгкім і адважным... Корань травы «Конус» (№ 68) дае любоў нядружнай пары, а корань «Лаперта» ці «Папер» (№ 69) здабывае яго ўласніку ласку ўсякага чалавека...

Але ёсць яшчэ больш моцныя травы, якія даюць уладарам перамогу над чарцямі і ерэтыкамі. Трава «Адамова голова» (№ 9) дае мажлівасць бачыць чарцей паветраных і вадзяных... Трава «Железка» (№ 50) варочае мужчыне страчаную палавую сілу і даводзіць яе да надзвычайнай трываласці. Без травы «Иван» (№ 25) ніякі валхвіт не можа быць...

Гэтае пералічэнне моцы траў ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі і прыродай даюць нам ключ да разумення таго, у які час пісаўся гэты «лячэбнік» і якімі людзьмі ён ужываўся. Працэсы чараўнікоў і асабліва чараўніц на Беларусі займалі значную ўвагу суддзяў 17 і пачатку 18 стагоддзяў... Вядома справа пападдзі Грамычынай Раіны, якая была спалена ў 1631 годзе ў Навагрудку за чараванне маршала Яна Сапегі («Археографический сборник, том 111», с. 107—165). Раней жа была спалена ў Слонімскім павеце сялянка Кароткая Ганна таксама за спробу падчараваць таго ж самага Яна Сапегу і за-

***Дай, божа, старым вочы, а маладым розум! (Цішчанка)***

чараванне жонкі слонімскага мешчаніна Кучэльскага і карчмара яўрэя Лейбы («Археографический сборник», т. 111, с. 99—103). У Полацку ў гэтыя ж часы абвінавачваўся мешчанін Брыкун, які таксама павінен быў адбыць кару на вогнішчы, але ён сам сябе зарэзаў, не чакаючы палення на гарадской плошчы («Археографический сборник», том 1, с. 345—346). Арандатар Аршанскай карчмы яўрэй Яскевіч-Гошка ў гэтыя ж самыя часы абвінавачвае ў чараўніцтве селяніна на той падставе, што, будучы ў карчме, ён прывітаў Гошку гарэлкай, пасля чаго ў яго сталі трэсціся рукі і ногі і хутка захварэў сын...

Моцная вера ў рэальнасць чарцей, вялікая асцярога перад ерэтыкамі, надзвычайная вера ў цудоўныя ўласцівасці траў даюць мажлівасць аднесці складанне гэтага «лячэбніка» да першай паловы 17 стагоддзя. Гэта быў не толькі час вялікае цемры на Беларусі, але і пара значнага разгортвання панскага земляробства...

Па самым складзе «лячэбнік» (звароты мовы, добрае веданне сяткаў: «лячэбнік» заўсёды паказвае, у які дзень месяца трэба рваць траву, ці ўжываць яе, каб мець карысць), трэба думаць, складаўся ў блізкім суседстве з духоўнымі асобамі ці імі перапісваўся... Такія звароты, як «оноя трава», «ежели», «сей», паказваюць на блізкае знаёмства аўтара «лячэбніка» з мовай славянскай, а самы стыль «лячэбніка» паказвае, што ён перакладаўся на расійскую мову, але большасць назваў траў засталіся мясцовыя, беларускія...»


**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Рэдактар Эрнэст Ялугін**

**Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека (нам. рэдактара), Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.**

**Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.**

*Наш індэкс на 1992 год — 63865.*



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.

Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.



Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». Наклад 4.834 паасобнікі. Заказ 2453. Індэкс 74975.